# КРЫНІЦА

№8 (18) верасень, 2010

www.bchd.info




## Віталь Рымашэўскі на invictory.org:

### INVICTORY.ORG з'яўляецца найбуйнейшым хрысціянскім парталам у краінах СНД, большасць яго наведвальнікаў з Расеі, Украіны і Беларусі.

*(Інтэрвью друкуецца ў арыгінале)*

***Здравствуйте. Если вы станете президентом что вы хотели бы изменить в нынешней политике? У вас есть программа? Поделитесь коротко (Игорь, Москва, Россия)***

Белорусскую политику нужно менять радикально. Поэтому об изменении в каждой сфере общественно-политической жизни в стране можно много подробно говорить.

Вот что считаю сутью реформ:

Современная власть использует советские, коммунистические подходы к политике. Для нее приоритетами являются какие угодно вещи – государство, международное влияние, экономическое развитие, но только не человек. В современной белорусской политике нет уважения к людям, нет осознания ценности человека и человеческой жизни как наибольшей из земных ценностей.

Белорусская политика должна быть направленной на человека. Главной ценностью политики должна быть жизнь конкретного человека, его семьи. Как христианин я уверен, что это возможно реализовать только тогда, когда политика будет строится на христианских принципах, когда у власти будут христиане.

***Виталий, как Вы оцениваете свои шансы на выборах? (Юрий, Украина)***

Шансы на победу у любого из демократических кандидатов на ближайших выборах практически равны нулю. Скажу больше, по-человечески это представляется невозможным. Но, как известно, что невозможно человеку, то возможно Господу.

Я иду на выборы, чтобы бороться за христианские ценности в моей стране, за белорусский народ, который сегодняшней властью поставлен на грань вымирания (за годы правления Лукашенко беларусов стало почти на 10% (!!) меньше. 50 000 абортов в год, распространение алкоголизма, тотальная коррупция – это плоды правления нынешней власти).

*Працяг на стр. 6-7*

# Віталь Рымашэўскі на Магілёўшчыне

**У нядзелю 8 жніўня Рымашэўскі сустрэўся з партыйным актывам БХД Асіповічаў, Клічава і Дараганава.**

Палітык сустракаецца не толькі з мясцовымі актывістамі БХД, але і з прадстаўнікамі хрысціянскіх цэркваў і моладзевых арганізацый.

Таксама Віталь Рымашэўскі браў удзел у адукацыйным семінары для рэгіянальных лідэраў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі – летняй школе БХД, што мелі месца пад Бабруйскам 7-8 жніўня.

Падчас сустрэчаў была абмеркаваная дзейнасць рэгіянальных структураў Партыі, а таксама падрыхтоўка да ўдзелу ў перадвыбарчай кампаніі. У кожным горадзе, дзе адбываліся сустрэчы, прынятае рашэнне аб стварэнні перадвыбарчых штабоў.

# Віталь Рымашэўскі аб'ехаў Гомельшчыну



**Скончылася трохдзённая паездка Віталя Рымашэўскага па Гомельскай вобласці. Палітык сустрэўся з актывістамі ў шасці гарадах вобласці.**

Скончылася трохдзённая паездка Віталя Рымашэўскага па Гомельскай вобласці. Палітык сустрэўся з актывістамі ў Гомелі, Буда-Кашалёве, Рэчыцы, Светлагорску, Калінкавічах, Мазыры. Акрамя таго, быў шэраг сустрэчаў з прадстаўнікамі хрысціянскіх цэркваў і моладзевых арганізацый.

Падчас сустрэчаў адбывалася абмеркаванне будучай дзейнасці БХД. Гаворка ішла і пра стварэнне перадвыбарчых штабоў, і пра вырашэнне мясцовых сацыяльных праблем, і пра заснаванне структураў БХД у тых гарадах, дзе іх яшчэ няма.

*«Зараз ідзе праца па фармаванні перадвыбарчых штабоў у раённых цэнтрах, а таксама запіс людзей у ініцыятыўныя групы»*, – паведаміў кіраўнік перадвыбарчага штабу Віталя Рымашэўскага па Гомельскай вобласці **Юры Клімовіч**.

Віталь Рымашэўскі сказаў і інтэрвію прэсавай службе БХД, што ўражаны і абураны тымі праблемамі, з якімі сутыкаюцца жыхары беларускіх рэгіёнаў.

*«Людзі ў гэтым рэгіёне сутыкаюцца з жахлівымі праблемамі. Многія атрымліваюць такі малы заробак, на які немагчыма пражыць. Чыноўнікі і міліцыя робяць, што хочуць, і ставяцца да людзей, як да быдла.*

*Тое, што я ўбачыў падчас паездак па рэгіёнах, выклікае абурэнне. Адначасова гэтае абурэнне дае натхненне да змагання. Чакаць няма чаго – трэба абараняць правы гэтых людзей»*, – кажа **Віталь Рымашэўскі**.

# Віталь Рымашэўскі на Гарадзеншчыне

**Прэтэндэнт у кандыдаты на прэзідэнцкую пасаду ад БХД Віталь Рымашэўскі аб'ехаў Гарадзенскую вобласць з мэтай падрыхтоўкі выбарчай кампаніі.**

14-15 жніўня Віталь Рымашэўскі браў удзел у адукацыйнай канферэнцыі для рэгіянальных лідэраў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі – летняй школе БХД, а таксама правёў сустрэчы з актывістамі і прыхільнікамі Партыі Горадні, Мастоў і Ваўкавыску.

Падчас сустрэчаў з актывістамі Партыі абмяркоўваліся, у першую чаргу, пытанні падрыхтоўкі выбарчай кампаніі Рымашэўскага.

Рымашэўскі мяркуе, што з апазіцыйных прэтэндэнтаў здолеюць



сабраць патрэбныя для рэгістрацыі сто тысяч подпісаў ня больш за тры чалавекі. Ужо загадзя можна сказаць, што выбары будуць нелегітымнымі, калі ў іх будзе ўдзельнічаць А.Лукашэнка, зазначае таксама В.Рымашэўскі.

Сваю кампанію аргкамітэт БХД хоча праводзіць у стылі жорсткага супрацьстаяння рэжыму Лукашэнкі, падкрэслівае палітык: «*Трэба выступіць як альтэрнатыва яму, даць людзям надзею на змены. Галоўная місія хрысціянскай дэмакратыі абвесціць сёння, што гэтая надзея ёсць, трэба даць людзям веру*», піша «Свабода».

16 жніўня Віталь Рымашэўскі правёў сустрэчу з актывам Партыі БХД Слоніма, у выніку якой быў створаны передвыбарчы штаб кандыдата ў прэзідэнты ад БХД.

Паездка сустаршыні БХД па Гарадзеншчыне пачалася 14 жніўня. 14-15 жніўня Віталь Рымашэўскі браў удзел у адукацыйнай канферэнцыі для рэгіянальных лідэраў Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі – летняй школе БХД, а таксама правёў сустрэчы з актывістамі і прыхільнікамі Партыі Горадні, Мастоў і Ваўкавыску.

# Віталь Рымашэўскі на Берасцейшчыне

**Патэнцыйны кандыдат у прэзідэнты Віталь Рымашэўскі завяршае свой візіт на Берасцейшчыну, дзе праводзіць сустрэчы з сябрамі БХД дзеля падрыхтоўкі передвыбарчай кампаніі.**

22 жніўня Віталь Рымашэўскі правёў сустрэчы з актывам Партыі Берасця і Кобрына. 23 жніўня адбылася сустрэча з кандыдатам у Баранавічах.

На сустрэчах, куды запрашаюцца актывісты партыі, святары і прадпрымальнікі, патэнцыйны кандыдат прэзэнтуе сваю перадвыбарчую праграму. Таксама абмяркоўваюцца пытанні развіцця мясцовых суполак БХД, іншыя пытанні дзейнасці Партыі.

Сустрэчы ў Кобрыне і Берасці праходзілі ў прыватных кватэрах, куды запрашаліся актывісты партыі.

Каардынатар БХД па Берасцейшчыне Зьміцер Шурхай кажа, што былі спробы арэндаваць для сустрэчы канфэрэнц-залі ў гатэлях.

Так, у Берасці напачатку нават была дадзена згода ў гатэлі «Беларусь».

«*Адміністрацыя напачатку нават пагадзілася прадставіць памяшканне. Размова зайшла ужо пра аплату за арэнду. Але калі яны даведаліся, што адбудзецца сустрэча з патэнцыйным кандыдатам у прэзыдэнты, то адразу ж прагучала адмова. І так па усіх*



*установах без выключэння ў Берасці,*» – распавядае «Свабодзе» Зміцер Шурхай.

Віталь Рымашэўскі таксама выступіў падчас адукацыйнай канферэнцыі для рэгіянальных лідэраў БХД з Берасцейшчыны, якая прайшла 21-22 жніўня ў Кобрыне.

# Сустрэча з Віталём Рымашэўскім у Баранавічах

**У аўторак, 23 жніўня, у Баранавічах адбылася сустрэча кандыдата ў прэзідэнты ад БХД Віталя Рымашэўскага з актывам БХД.**

На сустрэчу прыйшло каля двух дзесяткаў чалавек. Акрамя сяброў БХД на сустрэчы прысутнічалі святары, моладзь. Былі таксама прадстаўнікі незалежнай прэсы. На сустрэчы Віталь Рымашэўскі раздаў тэзы сваёй перадвыбарчай праграмы, распавёў пра становішча ў беларускім дэмакратычным руху, пра задачы партыі на цяперашнім этапе.

Напрыканцы сустрэчы былі абмеркаваны планы развіцця баранавіцкай суполкі БХД на бліжэйшы час, закраналіся тэмы рэгістрацыі партыі і яе ўдзелу ў будучых прэзідэнцкіх выбарах.

Адбыліся таксама прыватныя сустрэчы Віталя Рымашэўскага з прадпрымальнікамі, уплывовымі асобамі горада. На гэтых сустрэчах прысутнічалі таксама каардынатар БХД па Берасцейскай вобласці Зьміцер Шурхай і сустаршыня БХД Георгій Дзмітрук.

# БХД пачала масавую кампанію ў абарону Касцёла святога Язэпа



**18 жніўня на паседжанні групы, створанай Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыяй для абароны Касцёла святога Язэпа, быў дадзены старт масавай кампаніі абароны святыні.**




На першым этапе (цягам трох тыдняў) актывісты БХД у 14-ці гарадах Беларусі збяруць некалькі тысяч подпісаў з патрабаваннем вярнуць Касцёл вернікам. У бліжэйшыя выходныя збор подпісаў пройдзе таксама ў каталіцкіх пілігрымках ды каля менскіх касцёлаў.

На пачатку верасня сабраныя подпісы плануецца перадаць у адміністрацыю Аляксандра Лукашэнкі, КУП «Мінская спадчына», якое займаецца «рэканструкцыяй» комплексу, у дзяржаўныя ўстановы, Ватыкан ды ў замежныя амбасады.

Калі рэакцыі на зварот не будзе, БХД плануе распачаць штодзённае пікетаванне каля будынку Касцёла і кляштара, а таксама разгортванне шырокай кампаніі салідарнасці ў Facebook і Кантакце. БХД збіраецца зрабіць гэтую кампанію міжканфесійнай і шматтысячнай.

«*Сённяшняя дзяржаўная сістэма пабудаваная такім чынам, што падчас «перадвыбарчай кампаніі» найбольш верагодна дасягнуць канкрэтнага выніку ў пытанні вяртання Касцёла вернікам*», – адзначыў лідэр БХД **Павал Севярынец.**

Нагадаем, згодна з планамі Мінгарвыканкама, будынак мусіць быць прыстасаваны пад гасцінічны комплекс і аб'екты гандлёва-побытавага прызначэння.

У 2007 годзе кіраўніку Беларусі быў накіраваны зварот з больш чым 30 тысячамі подпісаў за вяртанне Касцёла вернікам, аднак з пачатку 2010 года вядуцца працы па пераабсталяванні касцёла ў гатэль.

# Перадвыбарчая канферэнцыя і з’езд БХД 12 верасня




**Адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі накіраваў запыты адносна памяшкання для правядзення канферэнцыі і рэгістрацыйнага з’езду ў Палац Рэспублікі, Палац культуры МТЗ і іншыя ўстановы Менску.**

Мерапрыемствы плануецца правесці ў нядзелю, 12 верасня. Гэта будзе ўжо трэцяя спроба Партыі БХД атрымаць дзяржаўную рэгістрацыю. У мінулым, 2009, годзе БХД правяла два ўстаноўчых з’езды, пасля якіх Мінюст незаконна адмовіў Партыі ў рэгістрацыі.

Зараз Адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі накіраваў 14 лістоў у розныя установы, у якіх ён просіць даць памяшканне для правядзення з’езду. Гэта такія памяшканні як малая зала Палаца Рэспублікі, Палац культуры МАЗ, Палац культуры МТЗ, ПК «Сукно», кінатэатр «Цэнтральны» і інш.

Перад здачай нумару ў друк стала вядома, што Канферэнцыя і Зьезд пройдуць 12 верасня у ПК МТЗ. Пачатак – 10.30.

# БХД звярнулася да еўрапейцаў у справе бел-чырвона-белага сцягу



**БХД звярнулася да амбасадараў еўрапейскіх краінаў, акрэдытаваных у Беларусі, у справе інцыдэнту вакол бел-чырвона-белых сцягоў на трыбунах стадыёна Бруге 19 жніўня.**

У гэты дзень ў бельгійскім горадзе Бруге адбылася сустрэча мясцовага клуба і менскага «Дынама». Гульня скончылася лікам 2:1 на карысьць бельгійскага клуба. На гэтую гульню прыехалі заўзятары з Беларусі, а таксама беларусы, што стала жывуць у Бельгіі. Бельгійскія беларусы прыйшлі на гульню з нацыянальнымі бел-чырвона-белымі сцягамі, што выклікала агрэсію з боку людзей, што выконвалі абавязкі заўзятараў. Сярод гэтых так званых заўзятараў былі асобы, вельмі падобныя на тых хто разганяе апазіцыйныя мерапрыемствы і збівае беларусаў у пад’ездах дамоў.

Чалавек, які назваўся «адказным за беларускіх заўзятараў», пачаў рваць з рук беларусаў вялікі бел-чырвона-белы сцяг, істэрычна ляментуючы, што ён не пацерпіць гэтага сцяга на гульні «сваёй каманды». Каб пазбегнуць далейшых правакацый з боку лукашыстаў, беларусы Бельгіі дамовіліся з адміністрацыяй стадыёна размясціць сцяг на адной з вольных ад гледачоў трыбун. Але пазней з’явіўся яшчэ адзін сцяг у другой групы беларускіх заўзятараў з Бельгіі. Гэта моцна занервавала некаторых асоб з беларускай амбасады, і нельга выключаць, што па іхняму загаду была зроблена яшчэ адна спроба вырваць сцяг з рук беларусаў. Пасля гэтай няўдалай спробы знік сцяг на вольнай ад гледачоў трыбуне. Пазней было высветлена, што гэта адбылося пасля пратэсту афіцыйных асоб амбасады. Напрыканцы гульні лукашысты з крыкам: «фашисты, оппозиция, мы вас всех здесь кончим» накінуліся на беларускіх патрыётаў. Адзін з беларусаў атрымаў колатую рану далоні. Сапраўдны твар лукашызму шакаваў бельгійцаў, якія сталі сведкамі гэтай падзеі. Гэта яшчэ раз паказала ўсяму свету антыбеларускі характар рэжыму Лукашэнкі.

*«Мы просім урады еўрапейскіх краінаў прыняць меры, каб не дапускаць агрэсіі прадстаўнікоў незаконнага рэжыму Лукашэнкі на мерапрыемствах, што адбываюцца на тэрыторыі Еўрапейскага Звязу. Калі малойчыкі са спецслужбаў з дапамогай «беларускіх амбасадаў» пачнуць збіваць незалежных беларусаў, знішчаць беларускі нацыянальны сцяг, усталёўваць свае парадкі на еўрапейскіх стадыёнах – гэта будзе азначаць, што беспакараная дыктатура грубага гвалту будзе паводзіць сябе яшчэ больш нахабна,»* – гаворыцца ў звароце.

Праця́г. Пачатак на стар. 1

Этим летом у меня были встречи во всех регионах Беларуси. Я скажу только одно: тот кто может чувствовать, не может не чувствовать сострадание к тому как живут простые люди в Беларуси. За выкрашенным фасадом политики белорусских властей скрываются сотни тысяч трагедий жизни беларусов.

Задача Белорусской Христианской Демократии, и моя задача, как кандидата от БХД на этих выборах дать белорусскому народу возможность альтернативы, христианской альтернативы. Никто другой из кандидатов ничего подобного не предлагает. Поэтому будем бороться за победу. Без гадания о шансах.

***Почему в Вы решили заниматься политикой? Верите ли Вы в то, что это Ваше призвание?***

Я пришел в политику, чтобы бороться с тем, что считал несправедливым и за то, что считаю правдой.

Думаю, что заниматься политикой – это моё призвание, по крайней мере, точно знаю, что у меня есть много качеств и способностей, которые нужны в политике, хотя знаю, что есть и много недостатков.

В любом случае, для меня важно жить так, чтобы быть готовым отказаться в любое время от всего, что есть в моей жизни, в том числе и от политики, если Господь призовет на служение в другое место.

***Виталий, скажите, выдвигая свою кандидатуру на пост предизента, не боитесь гонений со стороны власти? (Сергей, Россия)***

Не боюсь. Я занимаюсь политикой довольно давно. В Беларуси невозможно заниматься политикой и бояться гонений со стороны властей, потому что тогда придется жить в постоянном страхе, так как гонения со стороны власти в той или иной форме присутствуют постоянно.

***Здравствуйте, Виталий! Мне интересно узнать, в чем ваше отличие и вашей партии от других белорусских оппозиционных политических сил? (Андрей, Смоленск, Россия)***

Спасибо за вопрос.

Коротко: только Белорусская Христианская Демократия утверждает, что благополучное существование любого народа и государства возможно исключительно при условии соблюдения христианских принципов в общественной и политической жизни. Только мы предлагаем христианскую альтернативу в белорусской политике, последовательно выступаем в защиту христианских ценностей.

Не только Лукашенко не доволен нашей деятельностью. Среди оппозиционных партий, среди западных политиков Вы найдете немало недовольных позицией БХД.

Поэтому мы говорим о том. Что Белорусская Христианская Демократия – это не оппозиция, а альтернатива.

***Если БХД придет к власти, будут ли введен запрет на аборты по желанию? Будет ли принят антиабортный закон, похожий на тот, который действует в Польше? (Михаил, Минск)***

Я христианин и знаю, что аборт – это убийство.

Если БХД придет к власти, мы сделаем всё возможное, чтобы защитить жизнь.

К сожалению, здесь нет простых и лёгких путей. Например, запрет на аборты не решает проблему, так как если, завтра в Беларуси запретить аборты, то увеличивается количество криминальных абортов, а это значит, что погибать будут не только дети, но матери.

Многие люди просто не понимают, что делают. Со времён советского союза к абортам относятся как к легкой операции (!). Для коммунизма такое отношение к человеческой жизни было правилом. Сотни тысяч людей убивали в концлагерях, в тюрьмах, на развязанных войнах.

Изменить такое отношение людей, усилить государственные программы по поддержке семьи, ввести просветительские программы в школах, дать возможность церквям вести работу в школах, медицинских учреждениях – это и многое другое будет сделано Белорусской Христианской Демократией. Некоторые из программы мы реализуем на практике уже сегодня.

***Господин Виталий, знаю о вашем богословском образовании, поэтому задаю вопрос: насколько оправданным может быть для христианина определенное сопротивление властям? Понимаю, что это вполне оправданно, если послушание земной власти ведет к явному преступлению. Но учитывая, что в христианстве сильны традиции лояльности к власти, – насколько оправдано сопротивление в условиях белорусского режима? (Рита Тарайкевич, Минск, Беларусь)***

Вы сами уже частично ответили на свой вопрос. Для христиан нет власти не от Бога. Поэтому подчиняться нужно только тем и тому, что не противоречит Его воле, Евангельским принципам. Все те представители власти, которые нарушают эти принципы либо делают противное им – не есть власть для христианина.

Со злом надо бороться везде и всегда, от кого бы оно ни исходило. Сопротивление злу, борьба со злом – призвание каждого христианина в условиях любого режима.

***Кто из известных белорусских научных деятелей поддерживают вашу кандидатуру. И кого вы видите министром экономики независимой Беларуси. Спасибо ... Держитесь! С Богом! (Павел, Беларусь)***

Белорусская Христианская Демократия два месяца назад инициировали создание Альтернативного правительство из 77 известных деятелей оппозиции. Потребность в такой структуре связана не только с выборами, хотя если будет единый кандидат – у него должна быть своя компетентная команда профессионалов, готовая завтра приступить к работе в правительстве. Кроме этого, консолидация интеллектуалов, а в альтернативное правительство собираются именно такие люди, позволит решать разные проблемы общества еще до выборов. Мы часто говорим о том, что сделаем, когда придем к власти и даже не думаем, что можем изменить к лучшему здесь и сейчас. Политика нашей партии как раз и состоит в том, чтобы уже сегодня влиять на изменение условий жизни в стране. Для разработки законопроектов, подготовки национальных кампаний за изменения законов, условий жизни и работы беларусов мы создаем альтернативное правительство.

Среди этих людей есть несколько кандидатур и на пост министра экономики (например, господин Богданкевич). В правительство согласились войти и ряд белорусских учёных проф. Никитченко и другие.

***Павел Северинец сказал, что в Беларуси должна прийти «свобода для церквей и запрет для сект». Каким образом будет законодательно определяться, где церковь, а где секта? Уверена, что проявления тоталитарного сектантства могут быть и в христианской общине; с другой стороны, какая-нибудь нетрадиционная община, при всех ошибках своего учения, может быть не секта, а просто организацией, в которой люди свободно собрались создать нечто лучшее.***

Убежден, что государство не имеет никакого права вмешиваться в духовную жизнь человека, в жизнь церквей. Не функция государства определять как должны верить люди.

Государство должно вмешиваться только тогда, когда деятельность той или иной организации (церковной или какой-либо другой) угрожает жизни либо здоровью человека или нарушает общественный порядок. В таких случаях закон должен быть одинаков для всех – он должен защищать людей, а такие организации должны быть запрещены.

***Виталий здравствуйте. Расскажите пожалуйста о приходе который вы посещаете. Какую нагрузку (служение) вы там несете как воцерковленный прихожанин. Благословляет ли батюшка вашу активную деятельность в незарегистрированой по политическим причинам организации? Спасибо. (Вадим, РБ)***

Я регулярно посещаю богослужения. Рекомендацию мне, как воцерковлённому христианину могут дать многие священники, которые знают меня лично. Многие не только благословляют мою активную деятельность, но и помогают партии.

Ни конкретных имен, ни названий я называть не буду, так как знаю, что сразу после их опубликования эти люди будут иметь проблемы со стороны белорусских спецслужб.

Любого сомневающегося в искренности моих слов готов познакомить с такими людьми лично. (мой контактный телефон +375291673435)

***Здравствуйте, Виталий! Как православный беларус, весьма хочу задать Вам один вопрос. Ни для кого не секрет, что власть РБ оказывает определенное покровительство РПЦ, во многом сохраняющее православие неформально-титульным вероисповеданием белорусов. Не боитесь, что в условиях движения в Европу либеральные протестантские конфессии вытеснят нашу народную веру на второстепенные роли за счет своей простоты? Что Вы скажете по сему поводу как воцерковленный человек, какие иные подводные камни для православия видите? (Женя, Беларусь)***

Власть РБ оказывает медвежью услугу православной церкви.

Для укрепления и развития православия не нужна поддержка власти (такая «поддержка» только вредит и компрометирует церковь), для этого нужна вера и служение самих православных и свобода вероисповедания для распространения этой веры.

Того, что «в условиях движения в Европу либеральные протестантские конфессии вытеснят нашу народную веру на второстепенные роли за счет своей простоты» НЕ БОЮСЬ. Потому что уверен в глубине и силе православия. Я лично знаю многих христиан - протестантов, которые в их искренней вере и жертвенном служении Богу могут стать примером для всех христиан. Я искренне хотел бы открыть и для них ту ценность православия, которую вижу сам.

А вот поведение белорусских властей, которые пытаются использовать церковь для оправдания своих действий, считаю крайне вредными и опасными для церкви.

***Почему все госорганы называют церковь «Новая жизнь» деструктивной тоталитарной сектой? (Жулдыз-Уральск-Казахстан)***

Потому что главный принцип Сатаны – «разделяй и властвуй». Навешивание ярлыков, беспочвенных обвинений, клевета – это правила работы современных «госорганов». Эти же правила использовались и в работе советского КГБ.

Подтверждением моих слов есть то, что НИ РАЗУ не было НИ ОДНОГО случая со стороны госорганов призвать к ответственности представителей этой церкви за «деструктивные тоталитарные действия».

Я православный христианин, мои теологические взгляды отличаются от теологических взглядов протестантов или католиков, но я всегда буду бороться за свободу вероисповедания, против того, чтобы чиновник-атеист имел права судить церковь, вмешиваться в личную жизнь верующего человека.

Такие люди еще 30 - 40 лет назад без разбора гноили в концлагерях верующих всех конфессий – как православных, так и католиков и протестантов просто за веру во Христа.

Хотя бы во имя памяти этих мучеников за веру давайте будем едиными в защите права на свободу вероисповедания.

***Виталий! Что будем делать с идолами? Памятниками Ленину, Дзержинскому и другими террористами? (Выбаршчык, Минск)***

Создадим музей преступлений коммунизма. И эти идолы будут там экспонатами для того, чтобы наши потомки всегда помнили к чему приводит идолопоклонство.

***Расскажите как Вы пришли к Богу. Для Вас Бог это традиция или вера в сердце? (Сергей, Москва, Россия)***

До 21 года я был не просто неверующим человеком – я был атеистом.

Приход к вере был для меня неожиданным, хотя сейчас я поминаю, что искал Бога всегда, потому что и до прихода к вере самым главным вопросом для меня был вопрос о смысле жизни, о правде. Я благодарен господу, что Он открыл себя мне. Я ценю свой приход в церковь, веру больше всего, что есть у меня в жизни.

Я помню, как жить неверующему человеку, и я был бы счастлив, если бы моя жизнь и моё служение помогли прийти к вере хотя бы одному человеку.

***Как вы будете решать проблему гомосексуализма, и вообще ваше отношение к ним?***

Гомосексуализм, точно так же, как измена в браке, как унижение своих родителей, как идолопоклонство и т.п. - смертный грех.

Эффективно бороться с этим можно только усилением христианства, проповеди, влияния христиан на общество.

***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***

*Сёння ў нашай традыцыйнай рубрыцы «ТВАЁ ІМЯ, БЕЛАРУСЬ» мы прадстаўляем легендарную першую беларускую хрысціянку, княгіню Рагнеду.*



# РАГНЕДА



Рагнеда – першая легенда Беларусі.

Рагнеда – першая беларуская хрысьціянка.

Полацкая князёўна, жонка Ўладзімера Хрысьціцеля й маці Яраслава Мудрага.

Зорка Рагнеды выбліснула ў самы раньні час Беларусі: на сьвітаньні Полацкага княства, з прыняцьцем Хрыста ўсходнімі славянамі. Такім чынам, X стагодзьдзе, момант X: у Полацку валадарыць Рагвалод, які мае прыгожую дачку на выданьне...

12-гадовая нявеста, юная й чыстая, чакае вырашэньня свайго лёсу – вы толькі паглядзіце, гэта ж сама Беларусь! Драму Рагнеды звычайна трактуюць як цікавы эпізод старажытнасьці, выбух жаночага гонару, максімум – вобраз барацьбы за незалежнасьць. Насамрэч усё глыбей: Рагнеда-легенда стаіць першай знакавай асобай у шэрагу вялікіх духовых постацяў нацыянальнае гісторыі, стаіць у поўны рост.

Тут сымбалічна ўсё да цалі.

Да Рагнеды сваталіся наўгародзкі Ўладзімер і кіеўскі Яраполк. Уладзімеру Рагнеда адмовіла. У адказ у 978 г. той захапіў і спаліў Полацк, забіў Рагвалода, ягоную жонку й сыноў, а Рагнеду сілаю ўзяў сабе пад імем Гарыслава. Так, з разбурэньнем Полацка, распачынаецца знакамітая летапісная трагедыя беларускай гісторыі Старога Запавету. Праз паўтысячагодзьдзя ўдар у Полацк, быццам у звон, паўторыць Іван Жахлівы – і гэта азначыць пачатак Запавету Новага...

Уладзімер робіцца кіеўскім князем; жанчынаў у яго, паводле паганскага звычаю, цэлы гарэм; Гарыслава з сынамі жыве наводшыбе. Але аднойчы, калі Ўладзімер прыяжджае адведаць жонку, уначы – Рагнеда вырашае адпомсьціць. І – выключны выпадак для тых часоў! – робіць замах: кінжалам у сэрца.

Уладзімер нечакана прачнуўся.

Абуджэньне выратавала яго ад сьмерці. Уявіце сабе – за некалькі месяцаў да хрышчэньня Русі, перад кульмінацыйнай падзеяй усходнеславянскай гісторыі, Уладзімер быў як ніколі блізкі да сьмерці. Усё зло, якое ён напладзіў у паганстве, увесь гвалт, страх, нянавісьць ягонага жыцьця, крыважэрнасьць і блуд – сышлося на вастрыі, у адной сьмяротнай кропцы. Жыцьцё і сьмерць, падзеленыя лязом, як мяжой! Але Бог спыніў адплату. Сэрца, празь якое наканавана абвесьціць Хрыста ўсходняму славянству, было ўратаванае.

Жаль? Промах? Містыка? Рагнеда не забіла.

Кінжал Рагнеды – папярэджаньне звыш. Збаўленьне цудам. Так б'е бліскавіца – з успышкай адкрыцьця. Пасьля такіх адкрыцьцяў чалавек і прыходзіць да Бога.

Гісторыя здаецца неверагоднай – але гэта зафіксаваная летапісамі праўда. На вастрыі ляза сышліся жарсьці тысячагодзьдзя. Замах Рагнеды стаў драматычным прадвесьцем хрысьціянства. Вось яно, вастрыё волі Божае!

Зброя на момант стала Боскай – так, як нож Абрагама, занесены над Ісакам. Уладзімер быў узварушаны да глыбіні душы. А празь некалькі месяцаў адбыўся знакаміты Хрост: зьвяржэньне ў Дняпро ідалаў, прыняцьцё Хрыста – і пачатак абуджэньня ва ўсім славянскім сьвеце.

Рагнеда першай узяла ў рукі беларускую зброю – зброю папярэджаньня. І кінжал Рагнеды, і меч Ізяслава, і Альгердава дзіда – сымбалі адплаты й справядлівасьці – як сродак забойства не ўжываліся. Беларусь перамагала духова, сілай Божай, ахвярай і пакутай. Менавіта Рагнеда – наша першая хрысьціянка, яе сын Ізяслаў – князь-хрысьціянін, кніжнік, а прапраўнучка Эўфрасіньня – сьвятая заступніца Беларусі!

Памёрла Рагнеда ў 1000-м годзе нашае эры. Праз тысячу гадоў пасьля зьяўленьня на зямлі Ісуса Хрыста. За тысячу гадоў да нашага нараджэньня.

Белая нявеста, узятая гвалтам на полацкім пажарышчы, сярод крыві й сьмерці. Пакінутая жонка, чыё пачуцьцё, быццам іскра, выбухнула гіганцкімі духовымі ўзрушэньнямі. Чорная манашка, самотная маці, чые нашчадкі будуць валодаць паловай Эўропы.

Уся Беларусь застанецца для нас у гэтым першым моцным, прыгожым, хвалюючым, быццам бліскавіца, азарэньні гісторыі.

*З кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*

# Всякая власть от Бога

*Яков Радзевич*
*(Пастар евангельскай царквы, адзін з заснавальнікаў Руху Новай Рэфармацыі (Беларусь)*




***Тема взаимоотношений Церкви и государства является весьма сложной. Но с другой стороны, неправильное понимание этого вопроса порождает грандиозные проблемы, роковые последствия которых могут веками негативно влиять на народы. Поскольку институты Церкви и государства имеют конкретное место и образ в Божьем замысле, нам нужно изучить этот замысел и только согласно ему поступать.***

Отношения Церкви и государства Бог четко определил и открывает их нам в Библии. В Божьем разуме Церковь не является чем-то, что противостоит государству, что находится в вечном конфликте с государством. Наоборот, как Церковь, так и государство призваны Богом служить народу. Библейская история Израиля свидетельствует о том, что не только Церковь, но также и государство должны отражать Божий характер. Библия открывает нам, что Бога очень волнует поведение царей.

Многие проповедники основывают образ взаимоотношений государства и Церкви на словах Иисуса в Евангелии от Матфея: «Отдавайте кесарево кесарю, а Божие – Богу». Таким образом вырисовывается картина, как будто у Бога есть Свои дела и, пожалуйста, пусть кесарь туда не сует свой нос, а у кесаря – свои дела, и пусть Бог его не трогает. Такая теория абсолютно противоречит духу Библии. Все создано Богом, и все Ему принадлежит: и Церковь, и кесарь, и народ, и земля. И каждый даст свой отчет перед Богом за то, что ему доверено. Чтобы правильно интерпретировать эти слова Иисуса, нужно их прочитать во всем контексте. в котором они были сказаны. Вопрос о налоге, заданный Иисусу, был обыкновенной интригой, и сам евангелист утверждает, что иродиане искушали Его.



Иисус использовал их же язык, гениально уклонившись от ответа.

Слово Божье говорит, что «существующие власти от Бога установлены, посему противящийся власти противится Божию установлению» (Рим 13,1-7). Институт власти создан Богом как отражение власти Бога на земле. Без закона, без авторитета, без власти жизнь становится кошмаром. Бог есть Богом устройства и порядка. Каждый, кто противится Божьему устройству выступает как враг Бога. Также правители, если выступают против Божьего устройства, попадают в эту категорию. Ведь «над высоким наблюдает Высший» (Еккл 5,7).

Факт, что «всякая власть от Бога», значит также то, что любое правительство является результатом уровня сознания народа. У безбожного народа будет безбожное правительство. У «темного» народа будет всегда тирания. Популярная ныне в Беларуси пословица, что каждый народ достоин своего правительства, является не чем иным, как справедливым законом, созданным Богом. Поэтому все, что происходит согласно этому закону, – от Бога. Следовательно, мы можем сказать, что немецкий народ заслужил себе Гитлера, и власть Гитлера была от Бога. Но это абсолютно не значит, что христиане должны были поддерживать Гитлера в его действиях (что, к сожалению, произошло). Напротив, христиане должны были противостать его сатанинским намерениям. Но так как «совесть» немецкого народа молчала, немцы во времена фашизма стали бессовестными.

Роль ветхозаветных пророков не была в том, чтобы выступать против установленных Богом царей, а наоборот, чтобы помочь им отразить на земле Божью справедливую власть, и, таким образом, служить народу. Роль Церкви – быть совестью нации. Не просто контролером правительства (это задача оппозиции). Быть совестью для всего народа, в том числе и пра-





вительства. Если народ идет добрым путем, Церковь должна поощрять его. Если народ бедствует, Церковь должна принести ему утешение. Если народ не понимает, что с ним происходит, Божьи пророки должны объяснить ему. Если народ грешит, Церковь должна его обличить. «Ибо уста священника должны хранить ведение, и закона ищут от уст его, потому что он – вестник Господа Саваофа» (Мал 2,7). Церковь – это голос Бога для народа. Иногда этот голос кому-то неприятен, и поэтому страшно его озвучить. Но Бог говорит пророку: «Я поставил тебя стражем дому Израилеву, и ты будешь слушать слово из уст Моих, и будешь вразумлять их от Меня. Когда Я скажу беззаконнику: "смертью умрешь!", а ты не будешь вразумлять его и говорить, чтобы остеречь беззаконника от беззаконного пути его, чтобы он жив был, то беззаконник тот умрет в беззаконии своем, и Я взыщу кровь его от рук твоих» (Иез 3,17-18). Такие пророки, как Моисей, Нафан, Илия, Иеремия, Даниил, Иоанн Креститель, обличали царей. Некоторые из них заплатили за это дорогую цену, но, исполнив Божью волю, они спасли свои души.

Церковь праведников является совестью нации. Задача совести – говорить истину. Если совесть народа замолчит, люди станут бессовестными. Когда правительство в Беларуси стало нарушать права верующих, евангельские христиане начали возмущаться, и даже плохо говорить о правительстве. Но когда ранее правительство перманентно нарушало права человека, христиане молчали, как будто это их не касается. Многие служители сегодня учат: «Бог требует от правительства одного – дать свободу проповеди Евангелия». Разве это библейский подход? Бог требует от правительства значительно больше. Задача правительства – отражать и утверждать в народе Божий закон. Какое правительство, таким будет и народ. Рыба гниет с головы. Поэтому царь должен быть примером для всего остального народа. Правительство должно хранить самые высокие моральные качества.

Церковь Божья – это соль земли и свет миру. Это совесть народа. Совесть остается совестью в каждой ситуации и в любой сфере. Также в области политики, культуры, СМИ, экономики. Церковь должна озвучивать голос Бога как для каждой личности, так и для государства. Церковь должна полноценно занять то место, которое определил для нее ее Творец. От позиции Церкви зависит судьба народа, и за свою позицию Церкви придется когда-то ответить перед Всевышним.

# Вынікі конкурсу, прысвечанага 100-годдзю Ларысы Геніюш



Адзначыць 100-годдзе Ларысы Геніюш паэтычным конкурсам нам падалося выдатнай ідэяй. Яе падтрымалі сябры БХД, чытачы «Крыніцы», проста свядомыя і літаратурна адораныя людзі з усёй Беларусі. Вось што напісала пра паэтку ў прадмове да сваёй нізкі Вера Бабок з Койданава: «Без яе вершаў немагчыма было б жыць, (...) гэта апора ў жыцці. Яны даюць сілу, умацоўваюць, у іх столькі важнага для чалавека, якому не абыякавыя духоўныя, нацыянальныя, хрысціянскія каштоўнасці».

У адрозненне ад іншых арганізатараў, мы распрацавалі ўмовы конкурсу: вершы павінны быць грамадзянскай тэматыкі, што адпавядае духу паэткі-змагаркі. Адгукнулася 26 чалавек, з іх 20 – электроннай поштай. Прадстаўлены ўсе ўзросты (ад школьнага да 70-ці і больш), усе прафесіі (ад рабочага да псіхолага), ёсць студэнты, журналісты, прафесійныя паэты. Вынікі падведзены к 1 жніўня, імёны пераможцаў і прызёраў змешчаны ў мінулым нумары «Крыніцы».

Тут мае карані,
Тут пяе небакрай.
Мне на гэтай зямлі
І пад елкаю рай.

Словамі **Зоі Жук**, што з Гродна, мог бы сказаць кожны ўдзельнік конкурсу. Знітаванасць з роднай зямлёй, пачуццё роднасці з яе гісторыяй і народам – вось што найбольш прываблівае ў дасланых вершах. Блізкі да перамогі быў **Віталь Рудак** з Глыбокага, чыя творчасць прасякнута мужным ваярскім духам. Паўстанцам прысвяціў свае вершы **Лявон з Луны** (так ён назваўся). Пра бацьку хораша піша **Вадзька Уцякач** з Мінска: «Ён мой герой і вечны прыклад». Пашанцавала хлопцу! А наступныя радкі гэтага аўтара маглі б стаць дэвізам для ўсіх нас, беларусаў:

Калі мы ўсе разам,
Тады, папраўдзе, сіла.
А будзем паасобку –
Брацкая магіла.

Во якая моладзь расце! У правільным кірунку мысліш, Вадзька. Падвучыся толькі асновам вершаскладання, бо без «двойчы два» алгебру паэзіі не засвоіш.

Удзельнікі конкурсу істотна адрозніваюцца па сваім паэтычным вопыце. Хтосьці не мае ніводнай публікацыі ў рэспубліканскім друку, хтосьці выдаў шмат кніжак. **Алесь Корнеў** з Баранавічаў, урач па прафесіі, мае, напрыклад, звыш 12 кніжак і паэм. **Максім Гацак** з Бабруйска не без самаіроніі выказаўся пра свае здольнасці:

Каб заспакоіць сваю кроў,
Каб енкі собскія суцішыць,
Дзяўбаць бы мог я друкароў
І ўласным коштам выдаць кніжку.

І выдавайце, дарагія браты па пяру! Выдала ж зборнік вершаў **Альдонія Наўчанкова**, наш прызёр з Клецка. Збірала грошы з пенсіі і зрабіла сабе значны падарунак да 70-годдзя. Літаратурная творчасць можа сапраўды быць апорай у жыцці, і калі ёсць хоць каліва таленту – нельга яго кідаць на камень.

Такім чынам, конкурс адбыўся. Ад імені сяброў журы і арганізатараў дзякую за ўвагу да нашага праекта ўсіх удзельнікаў. Сярод тых, хто не трапіў у лік пераможцаў і прызёраў, таксама шмат цікавых, перспектыўных творцаў. Калі каму спатрэбіцца літаратурная кансультацыя, звяртайцеся ў «Крыніцу».

*Галіна Каржанеўская,*
*сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў*

## *Корнеў Алесь Касьянавіч*

**Нарадзіўся 30.11.1935 г. у гарадскім прыгарадзе Лупалава.**

**У 1960 г. па заканчэнню Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута працаваў урачом у г. Мазыры, а з 1961 —1994 гг. загадчыкам дыспансэрнага аддзялення Баранавіцкага скурна-венeралагічнага дыспансэра. Маю двух сыноў: Генадзь і Вадзім, трох унукаў, аднаго праўнука.**

**У паэзію закахаўся яшчэ ў школьныя гады, аднак цалкам аддаўся ёй пасьля выхаду на інваліднасць у 1994 г. Выдаў больш 12 зборнікаў вершаў і паэмы: «Услед за ластаўкай» — 2001 г.; «Грае раніца зару» — 2002 г.; «Нязгаслыя яскі» — 2003 г.; «Жаночыя напевы» — 2004 г.; «Вішнёвы прысмак» — 2004 г.; «Праз міфы і казкі» — 2004 г.; «Крыжы зямелькі нашае» — 2004 г.; «Адгалоскі» — 2005 г.; «На пэндзліку Марка Шагала» — 2005 г.; «Пад зоркай Мілавіцай», 2007 г. і інш.**

**У невыказаным захапленні напеўнасцю, мілагучнасцю, паэтычнасцю і прыгажосцю роднай мовы.**

**Паштовы адрас: вул. Жукава, д. 12/1, кв. 59, 225416, г. Баранавічы, Берасцейская вобл.,**
**тэл. 8 0163 46 31 05.**

### Ларысе Геніюш

Сцюдзёная ноч над краінай.
Палярнае ззянне – насмешка
Над доляй людскою нявіннай,
Над сілай караючай, грэшнай.

То штык, то сабачыя іклы…
Жанчын абяссільвала кірка.
Канвой атупелы, абвыклы
Няспынна за вязнямі зіркаў.

Прыкладам! Вінтоўку нацэляць
На жонку, сястру альбо маці.
Спытайце ў сібірскіх мяцеліц:
Ці праўда, што людзі ўсе – «братья»?

То вяласць, то тэмпература,
То пульс – тонкай нітачкай, слабы.
Жанчына, што з гіпсу фігура,
Змярцвела, бы снежная баба.

Ці ўбачыць пакутніца Нёман
І барвы радзімай Гародні?
Завея нагадвае гоман
І сум невыказны народны.

А сённячы ўсім – і паэту! –
Жыццё дае іншую тэму.
Сатыру пішы і памфлеты
На тую і гэту сістэмы.

Ларыса, Старыя Дарогі*
Тваёю сядзібаю сталі.
Тут вершы тваe і трывогі –
Пад сонейкам на п’едэстале.

### ДРАЦЯНЫ ВЯНОК

Палітыкі – гэта акторы, паяцы.
Бо моц сваю бачаць заўсёды ў насіллі,
Усіх непакорлівых, што не баяцца,
Як шкоднае зелле, касілі б, касілі!

На захадзе гэтак і гэтак на ўсходзе.
У кожным кутку заўважаем канкрэтнасць.
Хіба можа марыць аб нейкай свабодзе,
Маленькі народ, абяссілены этнас?

Хто край свой любіў і хто марыў аб волі, –
За тым паўсядзённа, шточасна сачылі.
Жанчыну з дзіцяткам, паэтку тым болей,
Варожаю сілай чамусь палічылі.

З цудоўнай краіны спалоненых чэхаў
Далёка-далёка павезлі Ларысу.
І дар паэтычны з канвоем паехаў,
Але не туды, дзе раслі кіпарысы.

Там кедры ўкалыхвалі тых небаракаў,
Якія і ўладу клялі, і марозы...
І ўсё-ткі ніхто з іх адкрыта не плакаў,
Бо льдзінкай адразу рабіліся слёзы.

І добра што льдзінкай хаця, а не куляй...
Ды ўсё-такі ў сэрца ўпіваліся шротам.
Часы ліхалеццяў, нарэшце, мінулі
І Геніюш зноў з непакорным народам.

З калючага дроту вянок не лаўровы,
Ды мае аднак жа адметную ролю:
З яго, бы з гнязда, беларускія словы
Ляцяць і сягоння чародкай на волю

*У снежні 2001 г. у г. Старыя Дарогі ўстаноўлены першы на Беларусі помнік паэтцы.



## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД
(чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) –
калі ласка, паведамце нам праз пошту
**220123, г. Мінск, а/с 324**,
ці e-mail: **bchd.info@gmail.com**
або тэлефон – **8 029 5160861 (Павал)**.

**Незалежнае інфармацыйнае выданьне**
**Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»**
**Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.**
**Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ**

**Аб’ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 12 верасня 2010**
**Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.**
**Распаўсюд бясплатны.**